

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 СНЕЖАНЬ 31 Пятніца

№ 248-249 (683-684)

Цана 50 рублёў

# З НАДЫХОДЗЯЧЫМ НОВЫМ 1994 ГОДАМ!

## ПАВАЖАНЫЯ МІНЧАНЕ!

Адыходзіць у гісторыю 1993 год. Год, безумоўна, нялёгкі ў біяграфіі суверэннай Беларусі. Крызісныя працэсы, ахапіўшыя ўсе сферы нашага жыцця, патрабавалі ад кожнага з нас вытрымкі, мабілізацыі душэўных і фізічных сіл.

І няхай далёка не заўсёды гарадскія ўлады маглі ў поўнай меры ўплываць на характар падзей, але мы рабілі ўсё магчымае, каб забяспечыць нармальнае функцыяніраванне гарадской гаспадаркі, даць мінчанам святло, цяпло, ваду, стварыць спрыяльныя ўмовы для працы, вучобы і адпачынку, падтрымліваць парадак і дысцыпліну.

У горадзе ўдалося не толькі не дапусціць зніжэння аб'ёмаў прамысловай вытворчасці, але нават і некалькі іх павялічыць. Не дапушчана абвальнага росту беспрацоўя, рэзкага згортвання вытворчасці. Больш таго, на шэрагу прадпрыемстваў актыўна ішла мадэрнізацыя і тэхнічнае пераўзбраенне вытворчасці, асвоены выпуск цэлага шэрагу складаных бытавых прыбораў, якія раней прывозілі з-за межаў Беларусі. Пачата вытворчасць айчынных тралейбусаў, ствараюцца магутнасці па выпуску сваіх аўтобусаў.

Адыходзячы год стаў годам рашаючых крокаў па развіццю прадпрымальніцтва, раздзяржаўленню і прыватызацыі.

Нягледзячы на складанасці з фінансаваннем і матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем, працягвалася будаўніцтва жылля, магазінаў, дзіцячых садкоў, бальніц, паліклінік, іншых аб'ектаў сацкультбыту.

У экстрэмальных умовах гаспадарання ўдалося захаваць кіраўніцтва і забяспечыць адносна беспераболйную працу камунальнай, дарожна-будаўнічай і транспартнай структур гарадской гаспадаркі.

Асаблівая ўвага ўдзялялася вырашэнню праблем маламаёмасных, пенсіянераў і інвалідаў, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Арганізавана бясплатнае харчаванне школьнікаў, знойдзены шляхі падтрымкі і захавання дзіцячых дашкольных устаноў.

Дасягнутыя поспехі сталі магчымымі дзякуючы добрасумленнай працы соцень тысяч мінчан. Сардэчнае дзякуй усім, хто сумленна і творча працаваў, з гонарам выконваў свой абавязак.

Надыходзячы новы год абяцае быць не меней складаным і цяжкім. Але я веру, што ён прынясе з сабою доўгачаканае паляпшэнне жыцця, стане пераломным у нашай гісторыі.

Гарадскі Савет народных дэпутатаў, яго выканаўчы камітэт і далей будуць працаваць у інтарэсах гараджан, шукаць і знаходзіць шляхі вырашэння іх разнастайных праблем, рабіць усё, каб наш горад быў зручным для пражываючых, утульным, прыгожым і мірным.

У апошнія імгненні адыходзячага года жадаю ўсім жыхарам Мінска, іх родным і блізкім добрага здароўя, шчасця, поспехаў ва ўсіх справах.

**З Новым 1994 годам, дарагія мінчане!**

**Старшыня Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў А.М.ГЕРАСІМЕНКА.**



## КАЛЯНДАР

СОНЦА — 8.27/15.57.
Даўжыня дня — 7.30.
МЕСЯЦ — поўня 29 снежня.

ІМЯНІНЫ

Сёння:
Праваслаўныя — Зоі, Міхася, Севасцьяна, Сямёна.
Каталіцкія — Сыльвэстра

Заўтра:
Праваслаўныя — Ваніфацыя, Іліі.
Каталіцкія — Свята Багародзіцы; Марыі, Мечыслава.

У нядзелю:
Праваслаўныя — Ігнація, Данііла, Іаана.
Каталіцкія — Базыля, Рыгора.

## СВЯТОЧНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ Ў СТАЛІЦЫ

**Віктар СТРЫЖАК, «ДВ».**

По звестках, якія распаўсюдзіў Мінгарвыканкам, у навагоднія дні ў Мінску плануецца правядзенне шматлікіх відовішчных мерапрыемстваў.

Так, у ноч з 31 снежня на 1 студзеня пасля застольнай сустрэчы Новага года жыхары Першамайскага раёна змогуць прыняць удзел у гульнёва-забаўляльнай праграме каля святочнай ёлкі побач са станцыяй метро «Усход». Акрамя гэтай ёлкі ў названым раёне святочная ноч будзе працягвацца яшчэ каля пяці лясных прыгажунь.

Гарадское прадстаўленне з масавымі гуляннямі пачнецца ў 01.00 у Палацы спорту. Яно працягнецца да 05.30.

З 01.00 да 05.00 пройдзе тэатралізаванае навагодняе відовішча ў Маскоўскім раёне (кінатэатр «Бярэсце»).

Аналагічныя мерапрыемствы адбудуцца ў навагоднюю ноч і ў розных месцах іншых раёнаў сталіцы.

Што датычыцца 1 студзеня, то, напрыклад, ПК МВТА імя Кісялёва ў 12.00 пачынае навагодняе прадстаўленне для жыхароў Фрунзенскага раёна. У гэты ж час у парку імя Горкага адбудзецца прэм'ера дзіцячай тэатралізаванай праграмы. У 13.00 пачнецца дзіцячае фальклорнае прадстаўленне (кінатэатр «Салют»). Забаўляльнымі праграмамі парадуюць маленькіх мінчукоў таксама парк Чалюскінцаў (13.00) і Палац спорту (14.00).

Не менш відовішчна будуць праходзіць святкаванні Новага года і ва ўсіх іншых грамадскіх месцах і палацах культуры горада.

Не будзе абдзелены на святочныя відовішчы і другі дзень Новага года. Напрыклад, той жа парк імя Горкага 2 студзеня ў 12.00 прапануе наведвальнікам навагодні спектакль, для дзяцей у 11.00 і ў 15.00 будзе адчынены і Палац спорту.





## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ ЗНАХОДЗІЦЦА ДОМА

Як паведамілі ў прэс-службе Вярхоўнага Савета, 29 снежня Станіслаў Шушкевіч выпісаўся з бальніцы.

Праведзены напярэдадні медыцынскі кансіліум прыняў рашэнне, што для поўнага выздараўлення спатрэбіцца яшчэ некалькі дзён, якія кіраўнік парламента правядзе ў сям'і.

### НАВАГОДНІ ПАДАРУНАК

атрымалі жыхары пасёлка Сцяпянка. Напярэдадні Новага года сюды прадоўжаны з Дражні аўтобусны маршрут № 43. Ён пройдзе па нядаўна пабудаванай аўтамабільнай дарозе, якая звязала гэтыя два жылыя раёны. На маршруце будзе працаваць 5 адзінак аўтобусаў, інтэрвал руху — 14-15 хвілін. Жыхары Сцяпянкі змогуць цяпер самым кароткім і зручным шляхам дабірацца да трактарнага завода, аўтавакзала «Цэнтральны».

Хто зрабіў такі падарунак?

Дарогу спраектавалі спецыялісты інстытута «Мінскінжпраект» (дырэктар Г.Фацін), пабудавалі падраздзяленні ўпраўлення дарожна-маставога будаўніцтва гарвыканкама (начальнік У.Кудзелка), падрыхтавалі да эксплуатацыі работнікі трэста «Гордармеханізацыя» (кіраўнік І.Гурыновіч), аўтобусны маршрут арганізавала вытворчае ўпраўленне транспарту і сувязі гарвыканкама (начальнік Л.Іваноў) сумесна з вытворчым аб'яднаннем «Мінскпасажыраўтатранс» (кіраўнік В.Чалоўскі).

Трэба сказаць, што дарога, як і аўтобусны маршрут, зроблена па наказах выбаршчыкаў, дадзеных народным дэпутатам гарсавета і рэспублікі ў ходзе выбарчай кампаніі 1990 года. Улічваючы важнасць справы, выкананне наказу знаходзілася пад пастаянным кантролем гарвыканкама і яго старшыні А.Герасіменкі.

**Прэс-цэнтр гарвыканкама.**

### БТ «ПРОКАТИТ» ПОБЕДИТЕЛЕЙ

Начало Нового года на Белорусском телевидении будет отмечено выходом в эфир новой музыкальной программы — «Фаворит-шоу».

Как сообщили корреспонденту РИДа в редакции музыкальных и развлекательных программ, в основу этой передачи была положена идея поддержки эстрадных исполнителей. Кроме того, передача даст возможность дебютантам заявить о себе. Одно из главных условий, которое было поставлено участникам шоу, — исполнение абсолютно новых песен. Зрительским же жюри будет названа лучшая песня, которая получит Гран-при и удостоится права ежедневного проката в течение двух месяцев на Белорусском телевидении.

Создатели этой передачи надеются, что молодые исполнители из числа участников шоу будут замечены и найдут меценатскую поддержку.

**Александр КАЗАК.**

### НЕМЦЫ СНОВА В МИНСКЕ. И ОПЯТЬ С НОВОЙ ИДЕЕЙ

Среди культурных событий в январе нас ждет конференция, посвященная проблемам современной немецкой графики. Цель встречи — подытожить опыт двух выставок немецкого искусства, прошедших ранее в Минске.

Как сообщили корреспонденту агентства РИД, эту конференцию организует Штуттгартский музей при участии других немецких художественных музеев с помощью московского филиала культурного центра им.Гете.

На встрече прозвучат выступления немецких искусствоведов, в частности, из Берлина, а также профессора истории искусств М.Ф.Романюка и преподавателей кафедры истории и теории искусства Белорусской Академии искусств Е.Ф.Шунейки и М.Г.Борозны.

Конференция состоится в здании Белорусского государственного музея.

**И.КОЛОМЕНСКАЯ.**

### НОВЫ ГОД ПАЧНЕЦЦА З АКЦЫЙ ПРАТЭСТУ

На пасяджэнні прэзідыума Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, якое адбылося 28 снежня, быў прыняты зварот да членаў прафсаюзаў і ўсіх працоўных рэспублікі.

У ім утрымліваецца заклік правесці 12 студзеня ў працоўных калектывах акцыі пратэсту пад лозунгам «Не — збядненню народа»: мітынгі, сходы, сустрэчы з народнымі дэпутатамі і г. д.

Галоўнае патрабаванне гэтых акцый — знізіць падаткі на таваравытворцаў, не дапусціць развалу вытворчасці, замарожвання заработнай платы, скарачэння працоўных месцаў. Не састарэла і патрабаванне Федэрацыі прафсаюзаў аб вызначэнні даты датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет.

На пасяджэнні прэзідыума таксама абмяркоўвалася пытанне аб магчымым працягу акцыі пратэсту 18 студзеня ў дзень аднаўлення работы парламента.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

### □ КРИМИНАЛ

### И БЕЗ ШТАНОВ, И БЕЗ ДИПЛОМА...

На Червенском рынке учащаяся подготовительного отделения Белгосуниверситета К. украла из сумки 33-летней Т. вязаные брюки. Возмущенные таким нахальством прохожие помогли потерпевшей задержать «ученицу»...

Примерно в это же время в Заводском районе патруль милиции охладил буйный пыл еще двух «ученичков» — студента-второкурсника РТК Н. и одиннадцатиклассника средней школы рабочей молодежи Б. Этот дуэт, находясь в состоянии алкогольного опьянения, избил 19-летнего студента Минского лингвистического университета П.

Не уверен, что после таких «ярких» моментов в молодых биографиях, эти ребята еще могут рассчитывать на получение дипломов в ближайшем будущем.

**Сергей РАЧИЛА, пресс-центр УВД г.Минска.**

## У МІНГАРСАВЕЦЕ

### АПОШНІЯ ЎЗГАДНЕННІ

**Андрэй ПАТРЭБІН, «ДВ».**

І ў пераднавагоднія дні працаваў наладжаны механізм гарадской улады. Абмяркоўваліся, узгадняліся, прымаліся рашэнні.

Апошняе ў адыходзячым годзе пасяджэнне пастаяннай дэпутацкай камісіі па эканамічнаму развіццю і бюджэту было прысвечана шэрагу важкіх пытанняў, якія канчаткова вырашыць гарвыканкам ці сесія гарсавета.

Падтрымана хадайніцтва ўпраўлення бытавога абслугоўвання аб датацыях па выніках 1993 года. Як вядома, гэтая галіна застаецца стратнай і мае вялікія цяжкасці. На думку дэпутатаў, у ёй трэба паскараць прыватызацыю і развіццё канкурэнцыі.

Дэпутат М.Кобаса прадставіў ужо трэці праект рашэння сесіі аб размежаванні кампетэнцыі Мінгарсавета і Мінгарвыканкама ў вырашэнні зямельных пытанняў. Камісія яго падтрымала. Мяркуецца, што гарвыканкам атрымае адпаведныя паўнамоцтвы. У гэтым праекце таксама прадугледжаны парадак перадачы ў прыватную ўласнасць зямельных участкаў мінчанам, якія маюць уласныя дамы. Таксама мяркуецца праводзіць рэгулярныя аўкцыёны па продажы ўчасткаў для будаўніцтва жылога дома і па прадастаўленню зямлі ў арэнду.

Камісія ўзгадніла паказчыкі па ўдакладненню гарадскога бюджэту на 1993 год. Жыццё зараз вымушае рабіць гэта штоквартальна. Вядома, эканамічны крызіс не спрые рэгулярнасці паступлення, але даходы ў бюджэт ідуць як належыць і ніводнае неадкладнае фінансаванне не было прыпынена. Як адзначыла кіраўнік бюджэтнага аддзела фінансавага ўпраўлення Н.Вішнеўская, удалося вытрымаць і ўкласціся ў запланаваныя прапорцыі, у абмежаваныя законам памеры дэфіцыту. Дэфіцыт бюджэту складае каля 43 мільярдаў рублёў, але не перавысіць устаноўленых 12 працэнтаў.

Дэпутаты таксама разгледзелі прапановы па зменах структуры ўпраўлення ўнутраных спраў, якія зацвердзіць сесія гарсавета, вывучылі сітуацыю з падаткаабкладаннем аб'яднання «Ахова».

## ПАРТАКТЫЎ

### А СУДДЗІ ХТО?

**Таццяна ЛАЗОЎСКАЯ, «ДВ».**

Ваенны суд Мінскага гарнізона завяршыў разгляд іску старшыні БЗВ Мікалая Статкевіча да Міністэрства абароны аб незаконным звальненні з войска. Першапачатковая версія звальнення Статкевіча звязвалася міністрам абароны з «Заключэннем» пракуратуры, у якім БЗВ прызнана палітычнай арганізацыяй. Але падчас судовага працэсу высветлілася, што гэтае «Заключэнне» было зроблена не па сапраўдным статуце БЗВ, а па дакуменце, які ў ключавых момантах істотна адрозніваецца ад дзеючага статута. Акрамя таго, самі аўтары «Заключэння» пісьмова засведчылі, што яно не з'яўляецца актам пракурорскага нагляду і не можа стаць падставай для звальнення Статкевіча. Таму прадстаўнікі Міністэрства абароны заявілі, што Статкевіч быў звольнены за свае выступленні супраць ваеннага саюза, якія нібыта з'яўляюцца грамадска-палітычнай дзейнасцю. Суд не ўзяў пад увагу, што само паняцце грамадска-палітычная дзейнасць не растлумачана Вярхоўным Саветам, што шмат хто з прадстаўнікоў Міністэрства абароны публічна выступаў за ваенны саюз, але іх не звальнялі «за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра».

Ваенны суд прызнаў звальненне афіцэра з ганебнай фармулёўкай, як высветлілася, за яго выступленні супраць небяспечнага для нашага народа ваеннага саюза, законным. У рэшце рэшт, чаго іншага чакаць ад суддзяў у пагонах, якія цалкам залежаць ад Міністэрства абароны, якія трымалі заяву Статкевіча 5 месяцаў і якім нават патрэбен перакладчык з беларускай мовы?

